Беларускі
ПЭН
Цэнтр

# Культурны супрацiў у Беларусi

выпуск 14 (27)

13 красавiка 2021

***«Мы хацелі гэтага [свайго роду негвалтоўнай рэвалюцыі] дамагчыся без праліцця крыві. Гэта быў ідэалістычны план».***

***Святлана Алексіевіч***



**ЯК ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ**

**падтрымайце кампанію Save Our Songs**

# 1. ЗАТРЫМАННІ, ПРЫСУДЫ, ПЕРАСЛЕД



Выставу «Машына дыхае, а я – не», прысвечаную беларускім медыкам, якія змагаюцца з кавідам, вымушаныя былі зачыніць. Арганізатаркі выставы — Наталля Трэніна і Таццяна Гацура-Яворская — былі затрыманыя 5 красавіка.

Таццяна Гацура-Яворская, праваабаронца, арганізатарка шматлікіх культурных ініцыятыў, сярод якіх фестывалі дакументальнага кіно, грамадскае аб'яднанне «Звяно» і выставы «Машына дыхае, а я – не», арыштаваная па крымінальнай справе.




Арганізатары перанеслі анлайн-фестываль дакументальнага кіно BelarusDocs, запланаваны на 13-19 красавіка, з прычыны масавых затрыманняў актывістаў і актывістак.

Мікола Кагановіч, паэт і галоўны рэдактар «Газеты Слонімскай», быў выкліканы ў міліцыю 7 красавіка. Паводле міліцыі, на сайце выдання знайшлі публікацыю, якая ўтрымлівае рэпост тэлеграм-канала, прызнанага ўладамі экстрэмісцкім.





Уладзімір Лобач, доктар гістарычных навук, этнограф, аўтар шматлікіх кніг, паэт, 7 красавіка звольнены з Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта. Ён быў адным з падпісантаў заявы ў абарону бела-чырвона-белага сцяга.

Экспазіцыю мастацкай суполкі «Пагоня», якая выказалася ў падтрымку Алеся Пушкіна, загадалі зняць за два дні да яе афіцыйнага закрыцця ў Палацы мастацтваў у Мінску.

Фота: Палац мастацтваў



**Рамана Васюковіча**, журналіста, 7 красавіка суд аштрафаваў на 20 базавых велічынь за ўвоз кнігі «Беларускі Данбас».





**Таццяну Нядбай**, паэтку, пісьменніцу, праваабаронцу, першую намесніцу старшыні Беларускага ПЭН-цэнтра, просяць тэрміновa забраць з крамаў «Белкнігі» асобнікі кнігі «Тэорыі літаратуры XX стагоддзя», якія яна аддавала туды на рэалізацыю.



Новае выданне кнігі **Альгерда Бахарэвіча** «Сабакі Еўропы» на мытні забралі на экспертызу.




Мастака па асвятленні **Данілу Ганчарова**, звольненага з Новага драматычнага тэатра за забастоўку, абвінавачваюць паводле крымінальнага артыкула ч. 1 арт. 342 КК – «арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, што груба парушаюць грамадскі парадак».





**Алесь Бяляцкі**, кіраўнік праваабарончага цэнтра «Вясна», сябра Беларускага ПЭН-цэнтра, пісьменнік, 9 красавіка быў дапытаны ў Следчым камітэце ў якасці сведкі па крымінальнай справе, заведзенай на «Вясну» паводле часткі 2 артыкула 342 Крымінальнага кодэкса – «Навучанне ці іншая падрыхтоўка асоб для ўдзелу ў групавых дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак». Допыт вёўся па-беларуску, як запатрабаваў спадар Бяляцкі. Ён падпісаў дакумент аб неразгалошванні.

# 2. СІМВОЛІКА



**Жыхара Слоніма асудзілі да 7 сутак адміністратыўнага арышту за «пікетаванне» і канфіскавалі аўтамабіль з налепкай «Пагоня» і бел-чырвона-белым сцягам.**




**Юлю Міхайлаву затрымалі 7 красавіка пасля таго, як апазналі на фота сярод жанчын, якія гулялі па Мінску з бел-чырвона-белымі парасонамі. Пасля агляду кватэры затрымалі таксама яе маці Таццяну і брата Пятра.**
**Юлі прысудзілі 25 сутак адміністратыўнага арышту, маці – 5, а брату – 6.**

**Судзяць за чырвоную плёнку (фальгу) на акне,**
**герб на сцяне ўласнай хаты,**
**сцягі ў вокнах,**
**а таксама вывешваюць з вокан кватэры сцяг,**
**якога не было,**
**фатаграфуюць і караюць за пікетаванне.**





# 3. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ

**Беларускія мастакі, сябры грамадскага творчага аб'яднання «Пагоня», выступілі ў падтрымку Алеся Пушкіна, прызнанага палітычным зняволеным. «Хіба іншадумства – гэта нагода распачынаць судовую справу супраць мастака-творцы? Хіба перастала дзейнічаць у нашай краіне фундаментальнае гуманітарнае права – права на творчасць?»**



**Малюнкі 18-гадовага палітзняволенага Ціхана Клюкача**







Малюнкі ўзятыя з фэйсбуку Ігара Бараноўскага

**Ліля Квацабая**
**«Будучыня»**




**Вольга Якубоўская**
**«Вартаўнік закону»**







**karikatu.rama**
**«Альтэрнатыўны постэр.
Добра было б убачыць герояў у твар»**



**Уладзімір Цэслер**
**«Дзень памяці ахвяраў Халакосту»**



Падборка малюнкаў беларускай мастачкі **Алены Крашэўскай**



**Максім Знак** – не толькі адвакат, ён таксама паэт і музыка, а падчас свайго зняволення (сем месяцаў) ён напісаў больш за сотню твораў: дзевяноста апавяданняў, дзясяткі вершаў і песень.





**Святлана Алексіевіч** расказала, што плануе пісаць кнігу пра падзеі, якія разгарнуліся ў Беларусі пасля 9 жніўня 2020 года.

# 4. ГАЛАСЫ АСОБАЎ



**Віктар Марціновіч**, пісьменнік:
***«Яны адчулі, што культура — гэта першасны выклік. Што менавіта культура прывяла паступова да новай сытуацыі. Таму і ідзе барацьба з культурай як такой — як гэта было з выставай пра мэдыкаў».***

**Наталля Качаткова**, акторка, пра сыход з Купалаўскага тэатра:
***«У нас чароўны калектыў! Цяпер вось сустракаемся, здымаем у холадзе да ночы – вельмі цяжка. Але зносіны прыносіць такую радасць, такую ўзаемную любоў!.. Мы адчуваем вялікую павагу адны да адных. Я думаю, што калі б не здарыўся наш сыход, то мы, напэўна, ніколі не змаглі б так моцна адчуваць, так шчыра адны пра адных клапаціцца. Мы ўсе адкрыліся са сваіх лепшых бакоў».***





Фота: gazetaby

**Канстанцін Яськоў**, кампазітар:
***«І такіх людзей, як Віктар Бабарыка, актыўных, багатых, дзёрзкіх і свабодных, павінна стаць шмат, тады будзе развівацца ўсё – і грамадства ў цэлым, і творчасць. Дзеля разнастайнасці патрэбна татальная свабода».***

**Ірына Дзям'янава**, выкладчыца і праграмны дырэктар «Лістапада»:
***«Як проста грамадзянін, а не чалавек, звязаны з кіно, я ўвесь час думаю, як захаваюцца сведчанні тых, напрыклад, хто прайшоў праз затрыманне і допыты. Дзе гэты досвед застаецца, апроч памяці людзей? Бо калі не застаецца, далей нам будзе няма чаго прад'явіць, чарговая траўма не будзе перажытая як нацыянальны досвед, а значыць, гэта ўсё паўтарыцца, няважна, хто будзе ва ўладзе».***



# 5. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ



**На расейскім РБК**
**выйшаў поўнаметражны**
**дакументальны фільм**
**пра сучасную беларускую музыку.**



**Выставу «Кожны дзень. Мастацтва. Салідарнасць. Супраціў» можна паглядзець анлайн.**

**Грузінская незалежная арганізацыя Kontaktobana заклікае да салідарнасці і прапануе дасылаць паштоўку ў падтрымку больш чым 300 беларускіх палітзняволеных, а пасля плануе анлайн-выставу ўсіх дасланых паштовак.**






**Выстава «Абуджэнне Беларусі» адкрылася ў Беларускім Доме ў Варшаве 9 красавіка.**

**На фестывалі дакументальных фільмаў «Артдокфэст» у Маскве у пазаконкурснай праграме «Жыве Беларусь!» паказалі 7 дакументальных фільмаў.**



